

# ЖИВ ИЛЬИЧ

Ленин! кто-ж его не знает?
от Кремля, где он крепко спит,
до хребтов голубого Алтая
слава Ленина ярко горит.

Выше гор, шире всякого моря,
тяжелее земли самой
было наше народное горе,
когда умер он, самый родной.

Умер Ленин... Но тверже стали,
крепче горных кремнистых пород
ученик его—доблестный Сталин—
нас к победам и счастью ведет.

Запісана ў калгасе
Бурат-Мангольскай Рэспублікі

# ЛЕНІНСКІ СЦЯГ

*(Беларуская народная песня)*

Мы песню пра шчасце сваё ўсе пяем,
Мы Леніна імя калгасам даем,
Мы ленінскі вобраз у сэрцы нясем,
Мы шчырую памяць аб ім беражэм.

Наш родны мілейшы ацец,
Вялікі і светлы найлепшы вучыцель,
Ад вечнага рабства і бед вызваліцель.

Вучэннем сваім ты народу памог,
Да шчасця адкрыў ты дарогу дарог,
За праўду, наш бацька, змагаўся ўвесь век,—
Па ленінскаму шляху ідзе чалавек.

Квітней-жа, краіна, як роза ў садах,
Бо ленінскі сцяг у моцных руках,
Бо Сталін наш родны вядзе па слядах,
Што Ленін пакінуў у справах, славах.

ІСКРЫ ІЛЬІЧА
ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ
ОРГАН ЦК ЛКСМБ
СТУДЗЕНЬ 1939 г. № 1.










*В. І. ЛЕНІН і І. В. СТАЛІН у Горках 1922 г.*

# БУДЗЕМ ТАКІМІ, ЯК ЛЕНІН

21 студзеня гэтага года споўнілася 15 год з дня смерці Вялікага правадыра чалавецтва Уладзіміра Ільіча Леніна. Яго смерць была цяжкай стратай для працоўных усяго свету. Ленін памёр, але справа яго жыве.

Вобраз вялікага Леніна жыве ў сэрцах мільёнаў працоўных. Імя Леніна—гэта сцяг барацьбы і перамог.

Над гробам Уладзіміра Ільіча таварыш Сталін ад імя партыі і ўсяго народа даў вялікую клятву. Ён пакляўся высока трымаць і захоўваць у чыстаце вялікае званне члена партыі, усімі сіламі мацаваць саюз рабочых і сялян, захоўваць адзінства бальшавіцкай партыі, мацаваць Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Таварыш Сталін, наша партыя, народ выканалі гэтую вялікую клятву.

Наша камуністычная партыя, кіруемая лепшым вучнем Леніна—таварышом Сталіным, увесь час вядзе нашу краіну ўперад па Ленінскаму шляху. Дзякуючы гэтаму наша краіна з адсталай і беднай ператварылася ў самую магутную краіну ў свеце.

Юныя піянеры Савецкага Саюза носяць з вялікім гонарам імя таварыша Леніна. Кожны з нас, рабяты, павінен заўсёды памятаць словы вялікага Леніна—вучыцца, вучыцца і вучыцца. Няма больш высокага гонару для нас, як добра выканаць запаветы Уладзіміра Ільіча.

Любімы правадыр таварыш Сталін штодзённа вучыць нас быць такімі як Ленін. Так як Ленін любіць свой народ, сваю шчаслівую радзіму, быць чэсным як Ленін, упарта працаваць на карысць працоўных, бязлітасна граміць ворагаў народа, як гэта рабіў таварыш Ленін.

Усе дзеці павінны старацца ва ўсім быць падобнымі на Леніна і на вялікага прадаўжальніка справы Леніна—на таварыша Сталіна.

# ШКОЛЬНЫЯ ГОДЫ ІЛЬІЧА

(Успаміны А. І. УЛЬЯНАВАЙ)



В. І. Ленін ва ўзросце 4 год.

У першы клас гімназіі Валодзя паступіў, калі яму было дзевяць з паловаю год. Рыхтавалі яго да паступлення дзве зімы — спачатку настаўнік, а потым настаўніца гарадскіх вучылішч, самых блізкіх ад нас. Настаўніца лічылася вельмі добраю выкладчыцай. Да яе Валодзя бегаў на гадзіну, рэдка на дзве, удзень або да ўрокаў з васьмі да дзевяці гадзін, або ў вольныя для настаўніцы гадзіны, звычайна ад дзевяці да дзесяці, калі ў школе адбываліся ўрокі закона божага, рукадзелля ці рысавання. Надзвычай жвавы з дзяцінства, ён так і ляцеў на ўрок. Памятаю, аднойчы маці ў халодную асеннюю раніцу хацела апрануць яму паліто, але не паспела азірнуцца, а яго ўжо няма. Выглянула, каб паклікаць яго зноў, а ён ужо заварачваў за вугал.



В. І. Ленін—гімназіст І-га класа. 1879 год.

Вучыўся ён лёгка і ахвотна. Здольнасці ў яго былі добрыя, ды і бацька прывучаў яго, як і старэйшых брата з сястрою, да ўседлівасці і да дакладнага і ўважлівага выканання заданага. Яшчэ, памятаю, настаўнікі яго гаварылі, што Валодзю вельмі дапамагае тое, што ён заўсёды ўважліва слухае тлумачэнні ўрока ў класе. Пры сваіх выдатных здольнасцях, ён запамінаў новы ўрок звычайна ў класе, і яму прыходзілася толькі крыху паўтарыць яго дома. І таму толькі, бывала, пачнецца вечар, і мы, старэйшыя, раскладземся са сваімі работамі ў сталовай, за вялікім сталом, пры агульнай лямпе, як выяўляецца, што Валодзя вывучыў ужо ўрокі і лапоча, свавоЛіць, падражнівае меншых і перашкаджае нам.

А ў старэйшых класах у тыя годы многа ўрокаў задавалі. „Валодзя, перастань!“— „Мамачка, Валодзя займацца не дае!“ Але Валодзю надакучыла сядзець ціха, і ён свавоЛіць, колам верціцца. Часам маці забірала меншых у залу, дзе яны спявалі пад яе акампанемент на раялі дзіцячыя песенькі.

Валодзя любіў спяваць; слух і здольнасці да музыкі ў яго былі добрыя. Але і тут ён не заўсёды ўціхамірваўся. Меншы брат Міця, ва ўзросце трох-пяці год, быў вельмі жаласлівы і ніяк не мог даспяваць без слёз „Козліка“. Яго стараліся прывучыць, угаварвалі. Але як толькі ён набярэцца мужнасці і стараецца праспяваць, не міргнуўшы вокам, усе сумныя месцы, як Валодзя паварачваецца да яго і з асаблівым націскам, зрабіўшы страшны твар, спявае: „Напа-алі на ко-озліка шэрыя воўкі...“ Міця трымаецца з усёй сілы. Але свавольнік не ўнімаецца і яшчэ з больш трагічным выглядам, выпрабоўваючы брата, спявае: „Пакі-інулі ба-абцы ро-ожкі ды но-ожкі“, пакуль малы, не вытрымліваючы, заліваецца струмянямі слёз. Памятаю, што я сварылася з-за гэтага з Валодзем, абураючыся, што ён дражніць маленькага.



Сімбірская гімназія, у якой вучыўся В. І. Ленін. 1879—1887 год.

# ЯК НІКІЦІШНА Ў ЛЕНІНА БЫЛА



Наш бацька быў бляхарам, працаваў у Смольным, але перад самай рэволюцыяй памёр. Так што і жалаванне нявыплачаным засталося. Часовы ўрад з'явіўся, маці пайшла адносна грошай, вярнулася ні з чым. Толькі і спыталі: „А ты, бабка, бачыла, як лягушкі скачуць?“

Узімку нам было дрэнна, маці гаворыць:

— Усе Леніна хваляць зараз, ці не пайсці мне вось у Смольны?

Неяк зранку ўстаем—няма старой. Думаем—на абедню пайшла, а яна гэта ў Смольны накіравалася... І падумайце толькі! Поўзала, поўзала там па кабінетах, ды на Владзіміра Ільіча нарвалася... Піша ён, запівае цукерку халодным чаем...



*Кабінет В. І. Леніна ў Крэмлі.*

Яна зусім не падумала, што гэта ён сам—тады партрэтаў мала было—і пытае:

— Вы, пан, на якой главы: на пісьме або на разборы?

Ён рассмяяўся:

— Як прыдзецца. Вам на-што?

— Мяне людзі да Леніна накіравалі, да Владзіміра Ільіча. Кажуць, тваю справу, Фядося Нікіцішна, з усіх начальнікаў адзін Ленін можа разблытаць... А я гляджу на вас, як хутка пішаце, і думаю: які пан многапісьменны!—ужо, напэўна, не з апошніх начальнікаў... Дзе мне Леніна шукаць, ці не дапаможаце вы мне?

Спакойна села, ды коратка далажыла.

Вочы ў яго такія вясёлыя зрабіліся, пасмейваецца:

— Правільна, Фядося Нікіцішна... Без Леніна абойдземся.

Паклікаў супрацоўніка, выметку з кніжкі даў:

„Таварыш, тэрмінова вырашыце Фядосі Нікіцішне яе справу“.

Маці дадому прыходзіць і грошы выкладае:

— Усе начальнікі ў Смольным добрыя! І без Леніна справу зрабілі.

А праз месяц прыносіць з рынка фатаграфічную картку:

— Вось, купіла начальніка, з якім у габінеце-то сядзела...

Мы зірнулі, і ажно ахнулі:

— Маці, гэта-ж Ленін і быў.

(З кнігі „Творчасць народаў СССР“)



*В. І. Ленін у Горках. Жнівень—верасень 1922 г.*



*В. І. Ленін на Ўсерасійскім суботніку 1 мая 1920 г. у Крэмлі.*

# Пячнік

Быў у нас адзін чалавек, па прозвішчу Бендэрын. Ён быў па сельскай гаспадарцы на ўсе рукі майстар: рабіў печы, паліцы, сані.

Аднойчы накіроўваецца ён у гай і пачынае там клён зразаць.

Пілуе ён гэта клён, раптам чуе словы:

— Добры дзень!

Бендэрын, вядома, азірнуўся. Глядзіць: стаіць нейкі мужчына.

Бендэрын яму:

— Выбачайце,—кажа,—ваша высокаблагароддзе.

А мужчына гэты яму адказвае:

— Я,—кажа,—не ваша высокаблагароддзе. Я,—кажа,—таварыш Ленін.

Бендэрын яму зноў:

— Выбачайце,—кажа,—таварыш Ленін.

А Ленін яму:

— Ну, пілуй, пілуй!

А сам адышоў, стаў убаку. Глядзіць, што ён далей рабіць будзе. Такое дрэва цяжкае,— як ён яго ў вёску без каня пацягне?

Бендэрын адмерыў палкай, які размер яму быў патрэбны, адрэзаў і спусціў з гары. Потым зноў вярнуўся, зноў адрэзаў.

Ленін яму кажа:

— Табе, можа, дапамагчы?

— Не трэба, што вы! Я і сам спраўлюся.

Зараз час такі. Час самай касавіцы. Той-жа самы Бендэрын накіроўваецца ў гай зноў па матэрыял.

Зрэзаў ён клён або там бярозу, перайшоў рэчку і сеў адпачываць.

А было гэта пад вечар.

Вось сядзіць ён, глядзіць: ідуць па пакосу ўтраіх.

А ён, гэты Бендэрын, такі дзёрзкі быў мужык. Крычыць ім:

— Чаго вы тут бадзяецеся? Ведаеце, колькі каштуе сёння сена?

І вылаяў іх... Падыходзяць блізка, адзін з іх і кажа:

— Ах, старэнькі, як ты лоўка лаешся?

Тут Бендэрын яго і апазнаў.

— Выбачайце,—кажа,—таварыш Ленін.

Пачалася зіма. Цяжка было тады печніка знайсці.

Сядзіць Ільіч у сваім доме і пытае:

— Ці няма тут у вёсцы якога-небудзь печніка, каб не было ў нас дыму?

А там Бендэрына ведалі, што ён пячнік.
— Пячнік, — кажуць,—ёсць тут адзін.
-І паехалі па яго.
Цікава...
Прыязджаюць да яго двое вайсковых на рысаках, уваходзяць у дом і пытаюць:
— Ты пячнік?
А ён на печы ляжаў. Высунуў адтуль галаву, адказвае:
— Я,—кажа.
— Збірайся, паедзем у соўгас!
Так...
Значыць, Бендэрын гэты вельмі спалохаўся. І кажа сваёй жонцы:
— Ну, Кацюха, бывай! Больш мы з табою не ўбачымся. Мабыць, старыя мае грубасці ўспомніў Ленін.
Сядае з гэтымі вайсковымі, едзе ў соўгас.
Прыязджае. Выходзіць да яго Ільіч і кажа яму:
— А я цябе, старэнькі, прыпомніў! Гэта ты,—кажа,—у гаі клён рэзаў, а потым другі раз на пакосе вылаяў мяне?...
Бендэрын ад спалоху нават захварэў:


*В. І. Ленін гутарыць з сялянамі.*

— Выбачайце,—кажа.
А Ленін яму:
— Ну, гэта — глупства. На пакосе ты правільна мяне вылаяў, а я няправільна рабіў, што па пакосу ішоў. А зараз будзем з табою гаварыць пра тое, дзеля чаго я цябе паклікаў... Я маю да цябе найвялікшую просьбу. Бачыш, як я жыву. У мяне ўсе сцены чорныя ад дыму. Ці можаш ты дымаход паправіць?
— Магу,—кажа.
Тут патрабуе Бендэрын сабе гліну, патрабуе цэглы і пачынае працаваць.
Скончыў работу, Ільіч яму падзякаваў, заплаціў яму, што трэба, і садзіць разам з сабою чай піць.
Вось прыязджае потым Бендэрын дадому на рысаках і гаворыць паважна сваёй жонцы:
— Кацюха, а я таварышу Ільічу печ паправіў і чай з ім піў.

(З кнігі „Творчасць народаў СССР“).

# Пчолы



Працаваў я на пчольніку і раптам бачу: рассоўваючы рукамі акацыю, ідзе Ільіч.
Я кінуўся да яго.
— Владзімір Ільіч, пачакайце! Я дам вам шапку, каб вас пчолы не пакусалі.
А ён мне:
— Да мяне ні адна пчала не дакранецца.
І сапраўды: Владзімір Ільіч так плаўна прайшоў,—ні адна пчала яго не ўкусіла.
Тады я ў яго запытаў:
— Владзімір Ільіч, растлумачце мне: як вы адшукалі маю гаспадарку? Вы-ж ішлі не па шасе, а збочылі на луг і па задняй дарозе прышлі да мяне на пчольнік. Хто вам паказаў гэтую дарогу?
Владзімір Ільіч засмяяўся:
— Таварыш Скарамыслаў, мяне прывялі да цябе па гэтай дарозе твае працаўнікі— пчолы.
Пачуўшы гэта, я вельмі ўсхваляваўся.
— Владзімір Ільіч, вы вялікі геній! Нават я, інструктар па пчалярству, не здагадаўся-б, ідучы на пасеку, спытаць дарогу ў пчол.

(З кнігі „Творчасць народаў СССР“).



# ЦІ ТРЭБА ЗАЎСЁДЫ СЛУХАЦЦА БАЦЬКОЎ



**ЕМ. ЯРАСЛАЎСКІ**

*Нядаўна вучаніцы 6-га класа Касенкова і Аглобліна з сяла Тэкіно, Тамбоўскай вобласці, прыслалі ў рэдакцыю „Пионерской Правды" пісьмо, у якім пісалі, што бацькі іх прымусілі пайсці ў царкву дапамагаць рабіць крэшчэнне, таскаць ваду і г. д. Калі яны прышлі ў школу, то ўбачылі, што аб іх напісалі ў насценнай газеце. Дзяўчынкі былі гэтым вельмі абураны.*

*Рэдакцыя „Пионерской Правды" паказала гэта пісьмо тав. Ем. Яраслаўскаму і папрасіла яго адказаць рэбятам. Вось які адказ даў тав. Ем. Яраслаўскі.*

Я не бачыў насценнай газеты і не магу судзіць, якая была ў ёй змешчана крытыка паводзін двух вучаніц. Але ахвотна веру, што гэта крытыка „непрыемная" для багамолак і царкоўных прыслужніц.

Правільна іх крытыкуюць ці не — не ведаю, але паводзіны іх заслугоўваюць сур'ёзнай крытыкі.

Дзяўчынкі ставяць агульнае пытанне перад рэдакцыяй „Пионерской Правды": ці павінны яны ва ўсім слухацца сваіх бацькоў? „Пионерская Правда" не раз заклікала дзяцей адносіцца з павагай к бацькам, якія клапоцяцца аб іх, адказваць на гэтыя клопаты ўвагай к сваім бацькам і маткам, імкнуцца дапагчы ім у іх рабоце. Комуністы за тое, каб паміж бацькамі і дзецьмі ўстанаўліваліся адносіны агульнай павагі і любві. Але комуністы не могуць патрабаваць ад дзяцей, каб яны ва ўсім слухаліся сваіх бацькоў. Бацькі бываюць розныя. Ёсць і злачынцы бацькі і контррэволюцыянеры. Ці павінны дзеці слухацца такіх бацькоў? Безумоўна не.

Усе дзеці ведаюць выдатную гісторыю піонера Паўліка Марозава. Хіба не паступіў ён чэсна, як герой, не спужаўшыся пайсці супроць сваіх родзічаў, калі ўбачыў, што яны робяць недастойную шкодную справу? А што было-б, калі-б Паўлік Марозаў разважаў так, як разважаюць Аглобліна і Касенкова? Ён прамаўчаў-бы аб злачынствах сваіх родных. Значыць ён сам стаў-бы саўдзельнікам іх злачынстваў.




Усякім спробам царквы ў тым ці іншым выглядзе прынадзіць дзяцей да сябе на службу трэба даць адпор. А калі бацькі, угаджаючы папам, пасылаюць сваіх дзяцей прыслужваць у царкве, тады дзеці зусім не павінны слухацца сваіх бацькоў. Яны не павінны пужацца пайсці ў гэтым пытанні супроць волі бацькоў. І школа, і ўся совецкая грамадскасць павінны ў такім выпадку прыйсці на дапамогу дзецям, заступіцца за іх, падзейнічаць на бацькоў.

Такім чынам на пытанне, пастаўленае ў загалоўку майго артыкула, трэба адказаць: бацькоў трэба слухацца, калі яны раюць штонебудзь карыснае; калі-ж бацькі патрабуюць, каб дзеці выконвалі рэлігійныя абрады, прыслужвалі ў царкве, у гэтым слухацца сваіх бацькоў не трэба. Трэба дзецям навучыцца даказваць у такіх выпадках бацькам, што яны не правы, і растлумачыць ім, чаму яны не правы.



# ДЗЕД-ГОСЦЬ

Верш ЯКУБА КОЛАСА

Рысункі В. ЦІХАНОВІЧА

Ходзіць дзед белабароды
Полем, лесам, пералескам,
Засцілае рэчкі лёдам,
Брылянцістым снежным блескам.

Сыпле іней на бярозы,
Туліць дрэвы лёгкім пухам,
Крые руні, травы, лозы
Белай посцілкай-кажухам.

Дзеда ўсюды носяць ногі,
І к нам прыдзе на хвілінку
Адпачыць крыху з дарогі,
Важна сеўшы на ялінку.

А ялінка!.. Чаго толькі
На яе няма галінках!
Свецяць зоркі і вясёлкі
У бліскучых павуцінках.

Тут лісічка, зайчык, мышкі,
Рыбкі, буслік доўгавязы.
А як з'яюць на ёй шышкі,
Нібы ў іх гараць алмазы!

Каля ёлкі хараводы,
Песні, гутарка жывая,
А той дзед белабароды
Толькі ў вусы смех пускае.

Дык рассунем кола шырэй,
Патанцуем на памосце,
Песняй звонкай, песняй шчырай
Прывітаем дзеда-госця.



# За радзіму



**Расказ удзельніка баёў у раёне возера Хасан ордэнаносца т. ПАДОЛЬСКАГА**

Было ўжо далёка за поўнач. У пакоі прагучэў рэзкі, настойлівы званок тэлефона. Камісар, які толькі што заснуў, хутка ўскочыў і падбег да тэлефона. Па тым, як званіў тэлефон, можна было меркаваць, што здарылася штосьці важнае.

У гэты час непрыкметна для камісара ўстала яго жонка і шасцігадовая дачка. Яны моўчкі прыслухоўваліся да размовы. Яны зразумелі, што здарылася штосьці сур'ёзнае і, не чакаючы канца размовы, хутка пачалі адзявацца. Жонка пачала акуратна складаць у чамадан неабходныя рэчы.



т. А. ПАДОЛЬСКІ

Дачка, якая дагэтуль сядзела моўчкі, раптам крыкнула:

— Мама, не забудзься пакласці шакаладку.

Праз некалькі хвілін камісар скончыў размаўляць і хутка пачаў збірацца. Паглядзеўшы на жонку і дачку, з усмешкай сказаў:

— Як відаць, зноў самураі заварушыліся.

Моцна пацалаваўшы абодвух, ён хутка вышаў. А праз некаторы час глыбокую цішыню цёплай жнівеньскай ночы прарэзала трывожнае выццё сірэны.

З надзвычайнай хуткасцю ў штаб пачалі збірацца камандзіры, лётчыкі, штурманы, тэхнікі, матарысты, байцы. Усе чакалі, што скажа камісар. А прамова яго была кароткая, але яна глыбока ўвайшла ў сэрца кожнага з прысутных. Ён горача казаў:

— Подлыя японскія захватчыкі напалі на нашу совецкую граніцу. Надышоў момант, калі мы сваю адданасць нашаму народу, совецкаму ўраду, партыі большэвікоў, вялікаму Сталіну павінны паказаць на справе. Нам выпала высокая чэсць адным з першых усёю сваёю магутнасцю навaліцца на ворага і сурова правучыць яго. Вораг будзе знішчан нашай магутнай тэхнікай!

А на граніцы ўжо ішоў гарачы бой...

Яшчэ 28 ліпеня 1938 года японскі атрад і некалькі жандармаў перайшлі граніцу, каб разведаць вышыню Заазёрную. Хаваючыся ў густой, высокай траве, нібы драпежныя звяры, паўзлі японцы. Але хутка яны сустрэлі зоркіх пагранічнікаў. Японскае камандаванне чакала дакладу ад сваіх разведчыкаў, але дакладваць не было каму. Усе японскія разведчыкі былі знішчаны меткім агнём пагранічнікаў.

У авіяцыйным гарнізоне жыццё пачалося раней, чым звычайна. Лётчыкі, атрымаўшы баявое заданне, схіліліся над картамі, тэхнікі рыхтавалі самалёты. Жнівеньскае ранне напоўнілася магутным рэвам матораў. Нарэшце гул матораў пачаў сціхаць, і хутка над аэрадромам зазвінела вясёлая песня жаўранкаў.

Жонка і дачка камісара моўчкі назіралі з акна, што рабілася на аэрадроме. А калі маторы сціхлі, дачка спытала:

— Мама, тата паляціць біць самураяў?

— Так,—адказала маці.

Сонца высока ўзнялася над сопкамі. На вуліцы стала горача. Маці адпраўляла дочку ў дзіцячы сад. І калі яна праводзіла яе, дачка ўспомніла аб сваім працівагазе і раптам закрычала:

— Мама, мама, ты забыла даць мне мой працівагазік!—павярнулася і хутка пабегла за ім.

У гэты дзень усе дзеці з'явіліся ў дзіцячы сад са сваімі працівагазамі.

Ва ўсіх дзяцей настрой быў надзвычай прыўзняты. Кожны з іх даводзіў перавагі свайго таткі.

— Мой татка лётчык,—кажа адзін.

— А мой штурман,—перапыняў другі.

— А мой тэхнік,—умешваўся трэці.

Як доўга спрачаліся-б дзеці, невядома, але доўга ім спрачацца не прыйшлося. На аэрадроме зноў зараўлі маторы, узняўся пыл...

Дзеці ўсе разам кінуліся да агарожы аэрадрома. Яны бачылі, як пастроіліся самалёты на старт. Яны радаваліся гэтаму, весела шумелі. Там-жа ўбаку з'явілася група школьнікаў. Затым самалёты адзін за адным хутка паімчаліся па зялёнаму полю аэрадрома, адрываліся ад зямлі і падымаліся ў паветра.

— Нашы таткі паляцелі самураяў біць!

І гэта было для іх радасцю.

* * *

Дзеці, таксама як і ўсе ў горадзе, праз некаторы час пачулі слабы гул матораў. Яны зноў кінуліся да аэрадрома. Усе з нецярплівасцю чакалі звароту самалётаў. Вось яны ўжо зусім блізка, прывітальна пакачваюцца з крыла на крыло. Усе радасна махаюць рукамі, касынкамі. Дзеці весела шумяць, нешта голасна крычаць. Але крыку іх не было чуваць: ён пакрываўся гулам матораў.

Самалёты ішлі ўжо на пасадку. Усе прыляцелі, толькі не было самалёта, на якім лятаў камісар.

— Няўжо забіты,— ціха сказаў нехта.

— Не, не можа гэтага быць,—амаль разам загаварылі дзеці.

А сэрцы іх сціскаліся ўсё больш і больш.



Яны непрыкметна ўшчыльную падышлі да агарожы і ўважліва пачалі назіраць.

— Не, дзядзя камісар не такі, каб яго збілі. Ён затрымаўся дзе-небудзь,—сказаў нехта з дзяцей.

Спадзяванні дзяцей пацвердзіліся. На гарызонце з паўднёвага захаду з'явілася маленькая кропка.

— Самалёт!—закрычалі дзеці. — Дзядзя камісар ляціць!

Кропка ўсё расла, і хутка выразна быў відаць самалёт. Ён ляцеў нізка над зямлёй паміж сопкамі. Зайшоў за гарадок, схаваўся ў лагчыне і адтуль пайшоў на пасадку.

Увечары каля летняй сцэны было цесна. Месц не хапала. Сядзелі проста на траве. З затоеным дыханнем прысутныя слухалі расказ камісара аб тым, як гордыя сокалы нашай радзімы разам з доблеснымі пехацінцамі, артылерыстамі і танкістамі грамілі японскіх захватчыкаў.

* * *

Аднойчы ўвечары маці паказала дачцы фотаздымак з газеты.

Дачка хутка знайшла свайго тату, які сядзеў побач з дзядзем Калініным, і звярнула ўвагу на штосьці, што бялелася на яго грудзях.

— Мама, што гэта ў таты?

— Ордэн Чырвонага Сцяга даў яму дзядзя Калінін за тое, што тата добра абараняў нашу радзіму,—адказала маці.

На наступны дзень дачка пайшла ў дзіцячы сад без працівагаза, але з газетай, дзе быў яе тата. Яна паказвала гэтую газету ўсім і гаварыла:

— Дзядзя Калінін даў тату Ордэн... за радзіму.

# Ёлачка

Закрыў поле снег пушысты
Белаю пярынай,
І ляжыць вакол срабрыста
Снежная раўніна.

Лес сівее цёмна-сіні,
Як бародка дзеда.
Пры дарозе ў снег і іней
Ёлачка адзета.

Новым Годам—шчасным святам,
Год шчаслівы славім.
Мы, рэбяты, ёлку ў хату
Пасярод паставім...

І зялёныя галінкі
Цацкамі ўпрыгожым,
Каб маленькая ялінка
Выглядала гожа.

Вакол ёлкі з мамай, татам,
Шумным карагодам.
Весяліцца будзем святам—
Шчаслівым Новым Годам.

Спяваць песні ў хаце чыстай
Дружна ўсе мы станем.
За шчаслівае дзяцінства
Дзякуй, родны Сталін!

Дзяткор **Стась Кацубо.**

Гомельскі раён.



# НА СНЯГУ СЛЯДЫ

Апавяданне Ів. ШАПАВАЛАВА

Рысункі К. ГЕДДА

Патрэсквалі ад марозу дрэвы. А тут яшчэ вецер разгуляўся з вечара: агнём паліць твар, у галінах вые, у вочы снегам шпурляе. Павольна прасоўваюцца скрозь ляцячыя струмені марознага паветра два пагранічнікі. Вінтоўкі заціснуты ў іх пад пахай. Рукі, вядома, азяблі, але тут ужо нічога не зробіш, і пагранічнікі шаволяць пальцамі, каб крыху іх адагрэць. Часам адзін з іх нізка нахіляецца к снегу, уважліва ўглядаецца ў нейкую ледзь заметную малюсенькую пляму.

— След! Недарэчны нейкі!

— Бачу.

Рашэнне прымаецца хутка. Праз поўгадзіны ля месца выяўлення следа ўжо былі начальнік заставы і праваднік з сабакам. Сабака панюхаў след і рвануўся ў тыл, цягнучы за сабою правадніка. Начальнік заставы і прыбыўшы з ім пагранічнік рухаліся ззаду. Вецер сцябаў у твар, перашкаджаючы ісці, сляпіў вочы, пранізваў цела.

Начальнік заставы, роўна, глыбока дыхаючы, ішоў за праваднікам насупроць ветру і завірусе. У валёнках было поўна снегу.

Сабака крута павярнуў у бок, пайшоў зноў. Начальнік заставы спыніўся. Суправаджаючы яго пагранічнік таксама спыніўся. Сабака, прайшоўшы метраў сто, зноў рвануў у бок, потым уперад.

— Сукін сын, а ўсё-такі мы цябе зловім,— упоўголаса пра сябе вымавіў начальнік заставы.

— Абавязкова зловім,—адазваўся пагранічнік.

Начальнік заставы ўсміхнуўся і зноў зашагаў уперад. Праваднік з сабакам быў метраў на трыццаць уперадзе. Нечакана ён спатыкнуўся і паваліўся. Начальнік заставы падбег да яго. Цяжка дышучы, пагранічнік з намаганнем ўзнімаўся на ногі. У мутным паўзмроку світання начальнік заставы разгледзеў яго твар: ён быў бледны і потны. Начальнік заставы не заўважаў, што і сам ён увесь у поце.

— Стаміліся?

— Спатыкнуўся, таварыш начальнік,— пагранічнік вінавата ўсміхнуўся і падняўся на ногі. Сабака ірвануўся ўперад. Усе накіраваліся далей.

Па сляду!

* * *

Наступіў дзень.

Ужо дзесяць гадзін пагранічнікі праследвалі парушальніка. Яго сляды дакладна абыходзілі вёскі, вялі лесам, балотам, па цаліне. Завіруха сціхла. Мароз акрэп. Твары пагранічнікаў асунуліся. Дыханне было цяжкім і вырывалася клубамі белай пары, якая асядала на расніцах, брывах, на шлёмах. Зда-

валася, толькі сабака не стаміўся. Ён, як і раней, вольна бег па замёрзшаму балоту, прынюхваючыся да следу, які цяпер амаль не быў замецены снегам. Ён праступаў ясна, і аказалася, што след-то не адзін, а два. Напэўна, ворагі, пераходзячы граніцу, ішлі след у след, а тут адчулі сябе ўжо больш бяспечна і пайшлі звычайна. Пагранічнікі забыліся аб стомленасці. Вораг быў блізка. Гэта адчувалі ўсе. Раптам сабака неспакойна і няўпэўнена замітусіўся з аднаго боку ў другі. Сляды разыходзіліся. Адзін з іх

яго роў і нейчы стогн. З-за стога, недарэчна махаючы рукой, у якую ўчапіўся і не выпускаў сабака, выскачыла фігура чалавека. Невядомы намагаўся вызваліцца ад сабакі, але сабака з маланкавай хуткасцю, выпусціўшы руку і ўскочыўшы ворагу на спіну, упіўся зубамі ў плячо і паваліў бандыта на снег.

Далей справу рашылі секунды: начальнік заставы ў момант аказаўся побач з парушальнікам, а яшчэ праз некалькі секунд вораг, злосна азіраючыся, ляжаў на спіне,



ішоў у бок чарнеючай на ўзгорку вёскі, другі ішоў направа, к занесеным снегам стагам сена. Усе на мінуту спыніліся, запытальна гледзячы на начальніка. Той моўчкі накіраваўся па сляду, вядучаму к стагам. Сабака зноў упэўнена пайшоў уперад.

На секунду сабака замёр, настаражыўшыся і нюхаючы паветра.

Праваднік адшпіліў павадок.

— Фас!

Стралою рынуўся сабака к занесенаму снегам стогу, і праз секунду пагранічнікі, залёгшыя з вінтоўкамі напагатове, пачулі

звязаны па руках і нагах. Снег, прыліпшы да яго твару, быў падобен на страшную маску, на якой жывымі былі толькі вочы і раскрыты перасохшы рот з вырываючыміся з яго клубамі пары. Калі з ім было пакончана, начальнік заставы павярнуўся. Праваднік ляжаў на снягу ўгору тварам, а сабака сядзеў над імі і лізаў яго лоб і шчокі, час ад часу азіраючыся на начальніка, быццам просячы ў яго дапамогі. Пакінуўшы звязанага парушальніка, начальнік заставы хутка падышоў к праваднiку. Той ляжаў, цяжка дышучы.

— Што з вамі?



— Я... самлеў неяк, таварыш начальнік. Сам не ведаю чаму. Адлежуся, зараз пройдзе,—пагранічнік спрабаваў усміхнуцца, але холад скоўваў яму мускулы твару.

Другі пагранічнік, з цяжкасцю перастаўляючы ногі, падышоў да ляжачага. Начальнік заставы выпраміўся, хутка падышоў к стогу, нагамі разгроб снег, потым пачаў рукамі раскапваць сена. Зрабіўшы нейкае падабенства бярлогі, ён вярнуўся да ляжачага, спрабаваў яго падняць адзін, але адчуў, што сіл не хопіць.

— Давайце возьмем.

Удваіх з пагранічнікам яны данеслі праваднікa да стога. Начальнік заставы зняў свой поўшубак.

— Я зараз адлежуся, таварыш начальнік, не трэба.

Начальнік заставы спакойна паглядзеў у вочы праваднiку. Той паслушна змоўк.

— Мы зараз дойдзем да вёскі. За вамі не пазней як праз гадзіну прыедуць. Зразумела.

Праваднік моўчкі кіўнуў галавой. Начальнік заставы дадаў:

— Гэта вёска №... Сорак кілометраў ад заставы. А наогул усё пакуль выдатна, толькі-б другога цяпер раздабыць.

Ухутаўшы праваднікa ў поўшубак, камандзір пачаў накрываць яго сенам, пакідаючы толькі над тварам аддушыну. Скончыўшы з гэтай работай, ён развязаў ногі парушальніку.

— Ну-тка ўстань.

Той ляжаў, не рухаючыся.

— Уставай кажу!

— Я... парваў мяне ваш сабака.—Голас хрыплы.

Начальнік заставы падняў яго на ногі.

— Алмаз! Ка мне!—паклікаў ён сабаку. Пёс падышоў, ткнуўся ў калены камандзіра і зноў пайшоў к стогу, дзе ляжаў яго гаспадар.

— Ну, добра. Заставайся тут.—Пёс прыветліва замахаў хвастом і лапамі пачаў разграбаць сена.

* * *

У ваколіцы вёскі пагранічнікі сустрэлі цікавае шэсце. У запрэжаных санях ляжаў звязаны невядомы. Кіраваў канём малады калгаснік. А стары, год шасцідзесяці, са стрэльбай, спакойна сядзеў на нагах звязанага.

— Таварыш начальнік! Злодзея на гумнах злавілі, у атрад везці хацелі, а вы і самі... ды ў вас таксама...

— У мяне „таксама“, таварышы...—начальнік заставы цяжка апусціўся на сані побач з старым. Пагранічнік зрабіў тое-ж. Прыведзены імі парушальнік сустрэўся поглядам з парушальнікам, лежачым у санях, і па іх тварах прапаўзлі нейкія грымасы.

— У мяне там,—начальнік заставы ўказаў на балота,—таварыш застаўся.

— Ранены?—вырвалася трывожнае запытанне з групы калгаснікаў.

— Не, але... накіруйце зараз туды падводу. Па нашых слядах знойдзеце.






Апавяданне Н. НОСАВА

Рысунак А. ВОЛКАВА

Наш Егорка дзівак які! Паслала яго маці ў булачную.

— На табе рубель,—кажа,—ідзі купі булку. А вось табе яшчэ рубель, можаш купіць сабе піроўнае.

Пайшоў Егорка, адзін рубель у адной руцэ трымае, другі рубель—у другой.

— Гэты рубель,—думае,—булку купіць, а гэты на піроўнае.

Прышоў у булачную, а там невялікая чарга. Ён стаў ззаду, дайшоў да прылаўка. Прадаўшчыца пытае:

— Табе чаго, хлопчык?

А ён стаіць, спачатку на адзін рубель глядзіць, потым на другі, і маўчыць, нічога не гаворыць. Потым павярнуўся і пабег.

Прыходзіць дамоў, плача.

— Чаго ты?—пытае маці.—Пакрыўдзіў хто-небудзь?

— Не!

— Грошы згубіў?

— Не!

— Забыў што купіць?

— Не!

— Дык чаго-ж ты?

— Я рублі пераблытаў. Не памятаю, на які булку купіць, на які піроўнае!

Ну, хіба не дзівак наш Егорка!

# ДЗЕД МАРОЗ

Верш А. ЖУРБЫ



У вопратцы белай
  Шырокай, даўгой,
З вялізнай пушыстай
  Мятлой-барадой
Прышоў к нам здалёку
  Дзядуля-Мароз,
Завеі і холад
  З сабою прынёс.
У бель апранае
  І дрэвы й кусты,
На рэках, азёрах
  Будуе масты.

Па вуліцы ходзіць
  Ды снегам хрушчыць,
Вятры з сабой водзіць,
  У дрэвах трашчыць.
Ён грукае ў сцены
  І хат і сяней
Ды голасам гулкім
  Склікае дзяцей:
„Выходзьце, рэбяты:
  Час ладзіць каток.
Дык жыва-ж за працу,
  Шумлівы гурток!“

# Ці ведаеш ты?

## ЯК ГРЭЕ СНЕГ

Часта кажуць, што снег, пакрываючы зямлю, грэе яе. Гэта гучыць няпраўдападобна, бо снег, як вядома, ёсць здробнены лёд. Як-жа магчыма, каб лёд, які халадней за глебу, саграваў яе?

Каб праверыць гэта, зробім такі вопыт. Зарыем неглыбока ў глебу два тэрмометры: адзін у зямлю, пакрытую снегам, другі— у зямлю, без снегу. Мы ўпэўнімся, што тэрмометры пакажуць неаднолькавую тэмпературу: глеба пад снегам меней халодная, чым глеба аголеная.

Асабліва прыкметна розніца ў лютыя марозы.

Калі-б не грэючае дзеянне снега, насенне, пасеянае ўвосень, лежучы неглыбока ў зямлі, загінула-б у сільныя марозы; так не рэдка бывае ў маласнежныя зімы.

Шуба нас грэе таму, што ў нашым арганізме выпрацоўваецца цеплыня, і футра, дзякуючы сваёй нецеплаправоднасці, перашкаджае цеплыні выходзіць з цела.

Таксама і снег, не надаючы глебе цеплыні, перашкаджае выходзіць з глебы той цеплыні, якая ў ёй маецца; ён запавальняе астыванне глебы.

Паспрабуйце, рэбяты, растапіць 10 літраў (амаль вядро) толькі што выпаўшага снегу, і вы атрымаеце толькі каля аднаго літра вады; астатнія 9 літраў прыходзяцца на долю паветра. Снег, як і наша вопратка, грэе галоўным чынам таму, што ў ім ёсць многа паветра.



## ЗІМА ПАД ЗЯМЛЁЙ

Калі пад зямлёй бывае зіма? Здаецца, тады-ж, калі і на паверхні зямлі. Аднак гэта няверна. На глыбіню 3 метраў самы халодны дзень года прыходзіць са спазненнем больш чым у тры месяцы. Пад зямлёй студзеньскія маразы прыходзяць толькі ў красавіку, вясною; а ў студзені на глыбіні 3 метраў пануе не зіма, а восень.

У глыбіні, пад нашымі нагамі, ніколі не бывае той пары года, якая стаіць над зямлёй.



## САМЫ ВЯЛІКІ АРЭХ

Усе рэбята ведаюць маленькі кедравы арэшак (гэтыя арэшкі хаваюцца ў шышках вялікіх кедраў). Ведаюць і грэцкі арэх. Вялікая паміж імі розніца! Грэцкі арэх, мабыць, у сто разоў больш за кедравы. А ёсць сейшэльскі арэх. Ён разоў у сто больш за грэцкі. Гэта самы вялікі арэх у свеце.

У Індыйскім акіяне ёсць Сейшэльскі архіпелаг. На двух астравах гэтага архіпелага растуць дзіўныя пальмы. Нідзе больш яны не сустракаюцца. Сто год патрэбна для таго, каб такая пальма стала дарослым дрэвам і на ёй з'явіліся арэхі. А для таго, каб арэх паспеў, трэба дзесяць год.

# КАРШУН

Апавяданне **ЯНКІ МАЎРА**

**АД РЭДАКЦЫІ: Ці ўважліва Вы чытаеце кнігі? Нам здаецца, не заўсёды, і што сярод Вас, пэўна, знойдуцца такія рэбяты, якія не прывыклі і не ўмеюць чытаць, як належыць. Праверце сябе на гэтым маленькім апавяданні. Тут наўмысля дапушчаны некаторыя памылкі і недарэчнасці. Знайдзіце іх і напішыце нам. За лепшыя адказы рэбяты будуць прэміраваны.**

Хата Соніных бацькоў стаяла ў вельмі цікавым месцы. Лічылася, што яна знаходзіцца ў вёсцы Вуткі, але самой вёскі адсюль і відаць не было. Бо паміж іх былі могілкі з вялізнымі векавымі ліпамі. Кажуць, што раней яны, як звычайна, былі воддаль ад вёскі, але за шмат гадоў вёска вырасла, а адна хатка нават пераскочыла на другі бок могілак. Гэта і была хата Соніных бацькоў.

Цёмныя людзі з даўнейшых часоў баяцца могілак, а дзевяцігадовая Соня і яе малодшы брат Сцёпа нават не ведалі, што ёсць на свеце такі страх. Ім сотні і тысячы разоў даводзілася бегаць каля могілак і па могілках—і ніколі ніякай бяды з імі не здаралася ні ўдзень, ні ўвечары, ні ўначы. Наадварот яшчэ—сама Соня перапалохала аднаго разу нейкага старога дзеда, калі познім вечарам заварушылася ў сваёй белай сукенцы сярод магіл.

А Соня часта заседжвалася тут, бо адразу-ж за агарожай была круча, якая абрывалася прама ў раку. Адсюль відаць былі паплавы за ракой, лес за імі; пад нагамі, уздоўж вёскі, цякла рака, і відаць было, як з другога канца вёскі плывуць плыты.

А колькі шчасця было гуляць унізе, на самым беразе, выкапваць пячоры ў стромкай сцяне, пасылаць па вадзе выдзеўбаныя з кары лодкі сваім прыяцелям у сяло.

Галоўным абавязкам Соні было сачыць, каб іхняя хатняя жывёла шкоды не нарабіла. І трэба сказаць, што ў гэтай справе для Соні было шмат клопату. Свіння, напрыклад, упарта лезла праз плот у суседскі агарод. Карова аднаго разу захацела папасвіцца на сенакосе, узяла ды і паплыла прама праз рэчку на другі бераг. Але-ж затое была і пакараная: калі ўзбіралася на круты бераг, то не ўтрымалася і пакацілася ўніз. За качкамі ўнадзіўся ганяцца нейчы сабака і з'еў аднаго качаня.

Але горш за ўсё было пільнаваць курэй. Бо блізка жыў злейшы іхні вораг—каршун. Ён выбраў сабе месца на могілках у сасоніку, знайшоў там добрае дупло і абсталяваўся, як дома. З таго часу ні курам, ні Соні са Сцёпам спакою не было. Як толькі куры выйдуць на адкрытае месца—каршун ужо над імі. Куры з крыкам хаваюцца, хто куды, людзі бягуць на дапамогу—і драпежнік адступае. А праз некаторы час зноў тое самае. Аднаго разу так і было, што куры з крыкам кінуліся ўцякаць ад сапраўднага самалёта, які пралятаў у вышыні.

Быў гарачы чэрвеньскі дзень. Сонца пякло неміласэрна. Духата стаяла, як у печцы. Соня сядзела над берагам ракі, і наглядала як на другім беразе кладуць у копы авёс, як моршчыцца ад хваль вада ў рацэ.

Раптам знаёмы курыны крык. Зірнула Соня ў бок—бяжыць куранятка ў куст, а каршун зусім блізка над ім. Як толькі куранё пад куст, каршун—шась!—на яго ў куст.

Жаласна закрычала куранё, а каршун заблытаўся і вылецець з куста не можа. Кінулася тады да іх Соня, навалілася на куст і прыціснула каршуна яшчэ больш. А сама крычыць што ёсць сілы. Прыбег Сцёпа, але хоць ён і быў адзінаццацігадовым мужчынай, таксама не мог даць рады. Тады прыбегла маці і ўзяла каршуна, накрыўшы толькі яго хусткай.

Такім чынам маленькая Соня выратавала вёску ад небяспечнага драпежніка. І на памяць аб гэтым бацька зрабіў ёй чучала. Яно і цяпер стаіць у хаце на жэрдцы, чорнабелае, грознае, але нікому ўжо не страшнае.

# ЦІКАВЫЯ КНІЖКІ

## ПЫХ



За апошні час Беларускае дзяржаўнае выдавецтва выдала цэлы рад цікавых кніжак для маленькіх дзяцей.

Вышла з друку і знаходзіцца ў продажы народная казка пад назвай „Пых“. Малюнкі да яе зрабіў малады, таленавіты мастак, Анатолій Волкаў. Апрацавала казку В. Луцэвіч. У гэтай казцы расказваецца аб тым, як прышоў дзед у гарод рэпку вырываць. Толькі нахіліўся дзед рэпку выцягнуць, а пад кустом хтосьці: „Ппы-ы-хх! ппы-ы-хх! Ці не дзедка гэта? Ды ці не па рэпку ён?“ Спужаўся дзед і пабег к бабцы: —„Ох, бабка, там пад кустом хтосьці страшны сядзіць і пыхкае. Я ледзь адтуль уцёк“.

І тады ў гарод пайшла бабка. Толькі нахілілася бабка рэпку цягнуць, а пад кустом хтосьці: „Ппы-ы-хх! ппы-ы-хх! Ці не бабка гэта? Ды ці не па рэпку прышла?“ Спужалася бабка і ледзь прыбегла да дзеда.—„Ой, дзедка, праўду ты казаў, там пад кустом хтосьці страшны сядзіць і пыхкае. Ледзь я адтуль уцякла“.

Тады ў гарод пабегла ўнучка Аленка. Нахілілася яна над градкай і ўбачыла, што там ляжыць вожык і пыхкае толькі. Засмяялася Аленка і кажа: „Ах ты вожык, ах ты калючы, гэта ты дзядульку ды бабульку напужаў, гэта ты іх ад рэпкі прагнаў?“

Пацягнула Аленка рэпку і прынесла да бабкі і дзядулькі.

Казка вельмі вясёлая, добра апрацаваная.

## МАЛЕНЬКІ МУК

Таксама вельмі цікавая казка „Маленькі Мук“ В. Гауфа. У Мука ногі і рукі былі маленькія і сам ён быў маленькі-маленькі. Калі ён ішоў па вуліцы, злыя хлапчукі беглі за ім і крычалі: „Глядзіце, які карлік ідзе, глядзіце які смешны“.

Невясёлае было жыццё ў маленькага Мука, а калі памёр яго бацька, то зусім яму стала дрэнна. Злыя дзядзька і цётка прагналі яго з дому. Потым расказваецца, як маленькі Мук служыў у адной бабулькі. У гэтай бабулькі было чатыры кошкі і два каты, і Мук павінен быў даваць ім абед, расчэсваць грэбнем шэрсць і класці спаць на шаўковай падушцы.

Спачатку маленькаму Муку спадабалася жыць у бабулькі, але потым каты пачалі сваволіць, скакалі па пакоях і пабілі шмат кубкаў, сподкаў і талерак. Тут гаспадыня пачынае Мука лаяць: „ты кубкі і сподкі пабіў, ты талеркі перабіў“.



Далей расказваецца аб тым, як Мук пайшоў ад бабулькі і, выходзячы, узяў з сабой старыя, вялізныя туфлі. Гэтыя туфлі былі незвычайныя. — Бягуць яны—і Мук у іх бяжыць.

Потым ён стаў скараходам у каралеўскім палацы. Маленькі Мук абагнаў другога каралеўскага скарахода. Затым у Мука адбіраюць яго туфлі, але маленькі Мук усё-ж адпомсціў каралю і міністрам, якія засталіся з доўгімі насамі і доўгімі аслінымі вушамі.





012 /3

**Цана 30 кап.**

# „ЧЭМПІЁН"

Рысункі Н. МАЛЕВІЧА



1. ТРЭНІРУЮЦЦА РЭБЯТЫ...
„ЧЭМПІЁН"-ЖА НАШ ЗАЎЗЯТЫ
ПАГАРДЖАЕ ЎСІМ НА СВЕЦЕ:
— ТРЭНІРУЮЦЦА ХАЙ ДЗЕЦІ...



2. І НА СТАРТ ПРАЗ КОЛЬКІ ДЗЁН
СТАНАВІЦЦА „ЧЭМПІЁН"...
— ОЙ ЛЯЖАЦЬ ЯМУ Ў СНЕЗЕ;
БАЧ, НА ЛЫЖУ ЛЫЖА ЛЕЗЕ.



3. УСЕ РЭБЯТЫ АДНЫМ МАХАМ
З ГОРКІ ЎНІЗ НЯСУЦЦА ПТАХАМ.
„ЧЭМПІЁН"-ЖА, ПРОСТА СМЕХ:
ЛЫЖЫ—ЎГОРУ, ТВАРАМ—У СНЕГ!



4. ДЫ З РАЗГОНУ, НЕ ЗНАРОК,
РАПТАМ РЭЗНУЎСЯ У ЛАРОК...
ЛЫЖЫ—ЎШЧЭНТ, ЛАРОК—ТРАШЧЫЦЬ,
ХТО ЗДЗІВІЎСЯ, ХТО КРЫЧЫЦЬ:



5. „ЛЫЖНІК!"
— ЎЗБІЎСЯ, НЕДАРЭКА,
НА ЛАРОК, НА ЧАЛАВЕКА!..
А ЗБЯНТЭЖАНЫ І ЖАЛКІ
„ЧЭМПІЁН" ЗБІРАЎ КАВАЛКІ.




6. І ПАД РОГАТ І ПАД СМЕШКІ
ЁН ПРЫШОЎ НА ФІНІШ ПЕШКІ...
— ТРЭБА БОЛЬШ ТРЭНІРАВАЦЦА
І... ЗУСІМ НЕ ЗАЗНАВАЦЦА.

Радактар І. МАСАРСКІ Афармленне В. Ціхановіча Адрас рэдакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ.

Друкарня імя Сталіна, Менск. 26.000 экз. Зак. № 15. $2^1/_2$ друк. арк. Уп. Галоўліта БССР № Ш 56.